# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 38 (1230) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 23 ВЕРАСНЯ 1979 г. ЦАНА 1 зл.



*Сяляне прывезлі плёны восені на пункт скупкі ў Гайнаўцы.* *Фота Э. Панецкага.*

## Гутарка дзядзькі Максіма

## Пах восені

Не ведаю, як каму, але для мяне кожная пара года мае свой пах. Вясна пахне свежым полем, якое дае надзею на новае жыццё, пахне яна расцвіўшымі садамі і жывёльным гноем. Лета чую я па паху скошанага сена, а таксама і па паху людскога поту.

А восень? Восень пахне мне перш за ўсё спелымі яблыкамі і грушамі ды атавай.

Быў у нас адзін такі дзядуля, які даказваў (асабліва, калі падпіў), што пах свежай атавы вельмі спрыяльны ў каханні. Не магу вам сказаць, ці гэта праўда, бо дагэтуль не было ў мяне такой патрэбы.

Але ў гэтым годзе, калі звезлі атаву, гавару я сваёй жонцы:

— Поля, пойдзем сёння спаць на атаву.

Яна адразу здагадалася, у чым справа, і ад гэтай думкі твар яе найперш пачырванеў, а затым нахмурыўся ад злосці і непрыемнай грымасы.

— Бачыш, чорт стары, чаго яму захацелася! — пачала яна. — Заўтра ж ад самай раніцы трэба да ільну ісці, а яму атава ў галаве!

Вось і яшчэ адна характэрная прыкмета восені: лён. Калі б да маёй памяці дадаць яшчэ памяць маіх продкаўнябожчыкаў да дзесятага пакалення назад, дык і гэтага было б замала, каб прыгадаць пачатак гісторыі ільну ў нашым сялянскім лёсе. Толькі лён — гэта бабская справа. Так ужо ў нас завялося. Яны яго палолі, вырывалі, слалі на траве, каб прайшоў расой, сушылі на печцы, церлі, часалі, пралі і ўрэшце ткалі.

Праўда, шмат чаго з гэтай традыцыі цяпер ужо звялося. Лён стаў звычайным таварным прадуктам. Даўней, яшчэ ў час майго дзяцінства, найбагацейшыя гаспадары збіралі не больш адной фуры сырога ільну. Цяпер я сам засеяў ім аж два гектары поля, а ведаю і такіх гаспадароў, што кантрактуюць па пяць і па восем гектараў ільну. Проста — прагрэс. Сеюць трактарным сеўнікам, праполку робяць гербецыдамі, вырываюць машынамі. Астаецца толькі крыху падсушыць, пагрузіць на воз і даставіць на скупачны пункт.

Але мая Палашка рашыла аставіць у гэтым годзе нейкую капу льняных снапоў на ўласныя патрэбы. Кажа, што будзе сама церці і прасці, а пад весну і кросны паставіць, каб унукам каляровыя і ўзорыстыя плахты выткаць, бо такія модныя цяпер у горадзе, хай памятаюць сваю вясковую бабульку, калі не будзе яе ў жывых.

— Хопіць нам, Палашка, — гавару я жонцы, — на дзяцей ды ўнукаў забі-

(Працяг на стар. 4)

## Маю права ганарыцца...

Калі ў канцы жніўня бягучага года я апынуўся ў горадзе Златове, што ў Пільскім ваяводстве, знайшоў там патрэбныя вуліцу, дом і пры ўваходзе ў пад'езд на спіску жыхароў прачытаў: **„Зыгмунт Абрамовіч** — кватэра 18", ужо не было сумнення, што мяне спаткала праўдзівая журналісцкая ўдача. І на самай справе. Праз некалькі хвілін падаў мне руку сярэдняга росту жвавы чалавек, якога толькі снежная бель валос ды густая сетачка маршчынаў на прыветлівым твары здраджвала багаты гадамі і пражытым жыццёвы шлях. Неўзабаве, ужо за шклянкай чаю, ён на чысцейшай беларускай мове, падмацаванай далікатным акцёрскім жэстам, пачынае ўводзіць мяне ў тыя адлеглыя часы, пра якія ўсюды пішацца толькі як пра даўняе мінулае.

— Бацька мой, Іосіф Абрамовіч, заўсёды падкрэсліваў, што ён — беларус са Слуцка. Францішак Багушэвіч прыходзіўся нам блізкай раднёй. Наша сям'я, у тым ліку і я, неаднойчы гасцявала ў паэта. Якраз пра адну з такіх пабывак у яго я і пісаў недзе ў 1957 годзе ў „Ніве". Ф. Багушэвіч наведваў нас у Маскве. Бывала, як сыдуцца яны: бацька — старшы афіцэр-лекар і паэт — віленскі шанаваны адвакат, дык заўсёды размаўляюць толькі па-беларуску. Памятаю, вяртаюся я аднойчы з урокаў у гімназіі і чую, як бацька ў гасцінай рагоча на ўвесь голас. Заглядаю туды: ляжыць ён на канапе, чытае і час ад часу заліваецца радасным смехам. У руках у яго быў адзін са зборнікаў Ф. Багушэвіча „Дудка беларуская" ці „Смык беларускі", што знаходзілася ў нашай хатняй бібліятэцы. Любіў да іх звяртацца мой бацька як да ажыўляю-

(Працяг на стар. 4)



## З рэпарцёрскіх запісак

## ЯЎХІМ ВЯРБА

Яўхім Вярба пражыў ужо... а можа **толькі** 68 гадоў. Аднак вайна, вераснёвая кампанія, цяжкае раненне, а пасля нямецкі палон... усё гэта адбілася на здароўі.

*

Сядзім за сталом у яго старэнькім доміку ў Бельску Падляшскім на вуліцы Казімежаўскай. Дзядзька Яўхім дрыжачай рукой падае мне канверт, у якім знаходзіцца асабістае запрашэнне ў Млаву.

— Там урачыста адзначаюць саракавую гадавіну вялікай бітвы, — гаворыць ён.

Сапраўды, праграма вельмі багатая, размеркавана на некалькі дзён, бо пад Млавай польская армія „Модлін" прыняла на сябе галоўны ўдар гітлераўскай арміі „Поўнач", якая з даўнейшай Усходняй Прусіі перла найкарацейшай дарогай у Варшаву.

— Колькі сяброў маіх там загінула! — ціха, вельмі ціха адзываецца Яўхім Вярба і голас яго дрыжыць, словы з цяжкасцю праходзяць праз горла. — І жывых, тых, што засталіся, хацеў бы я яшчэ раз, можа ўжо апошні, убачыць... Толькі дарога далёкая. Гэта аж за Варшавай, а я ўжо не дам рады нічога рабіць... рукі трасуцца, усё ва мне ў сярэдзіне дрыжыць, абы-што, дык адразу задышка. Адна памяць у мяне яшчэ не паддаецца. Калі заплюшчу вочы, дык усіх іх бачу — жывых і мёртвых... То ж і я даўно згніў бы ў зямлі, каб добрыя сябры не адграблі мяне, каб не вынеслі з поля бою...

*

Сялянскі сын з вёскі Кошкі, **Яўхім Вярба** пасяліўся ў Бельску ў 1937 годзе. Удалося яму тады паступіць на пошту, быў вясковым пісьманосцам, ажаніўся, дачакаўся першага дзіцяці і тады, у сакавіку 1939 года, прызвалі яго ўжо другі раз у армію.

— Ваенную справу, — гаворыць ён, — ведаў я даволі добра, бо яшчэ ў роднай вёсцы праводзілі ў нас для моладзі вайсковае абучэнне, а пасля ў час чыннай вайсковай службы я быў выдатнікам па стральбе і па іншых салдацкіх занятках.

*

Чатыры дні трымалі яны абарону пад Млавай. Яўхім Вярба пайшоў на перадавую з кулямётам.

— Стралком я быў заўзятым, — гаворыць ён. — Асабліва насядаў на гнёзды варожых кулямётаў. Біў па іх дагэтуль, пакуль яны не змоўклі.

*

Яўхім Вярба служыў у 80 палку. Асабліва пацярпеў суседні, 79 полк, з якога амаль ніхто не астаўся ў жывых.

— Нашы салдаты, — расказвае ён, — мелі пераважна аднастрэльныя вінтоўкі. Выстраліш з яе, ды трэба адцягнуць затвор, каб выкінуць гільзу і зарадзіць новай куляй. А тут зямля ходырам ходзіць, пясок і пыль стаўбом стаяць. Па-

(Працяг на стар. 4)

**ПЕДАГАГІЧНЫЯ РАЗВАЖАННІ**

# ЦІ ВЕДАЕМ СВАЁ ДЗІЦЯ ?

Ад многіх пакаленняў людзі жывуць сумесна, перадаюць сабе формы узаемных адносін, працуюць, ствараюць, вучацца і выхоўваюць сваіх дзяцей. Паступаюць так пераважна па няпісанай традыцыі, уласнай інтуіцыі і звычайнай бацькоўскай любві. І гэта зразумела. Любячая маці, сардэчны сябар і блізкі прыяцель — гэта таксама цэненыя выхаваўцы як і штораз лепш адукаваны педагог. Добрыя вынікі іх выхаваўчага ўплыву вынікаюць, праўда, не з ведаў, але з разумнага выбару найбольш каштоўнага ў жыцці і вельмі моцных пачуццёвых адносін да тых, каго яны выхоўваюць.

Але бывае і так, што занадта моцнае пачуццё асляпляе і ашаламляе, боязь за блізкага чалавека паралізуе лагічнае мышленне. Празмерна высокія планы бацькоў не дазваляюць цвяроза ацаніць свае выхаваўчыя метады, а таксама магчымасці і здольнасці дзіцяці. У такіх выпадках патрабуюцца значныя веды, аб'ектыўны пункт гледжання, уменне глянуць з боку, паглыблены дыягназ псіхолага, лекара або настаўніка.

З-за адсутнасці аднолькавых вымаганняў, такіх самых этычных поглядаў і агульнапрызнаных маральных аўтарытэтаў, з-за крызісу сям'і і па гэтай прычыне немагчымасці выканання ёю выхаваўчай ролі — наступае надта трывожная з'ява, якую прынята называць грамадскім непрыстасаваннем дзяцей і моладзі.

Гісторыя апошніх год паказала моц ...нуючага над прыродай чалавека, але адначасова выявіла яго бяссілле ў тым, што іменна людзі патрапяць зніштажаць адны другіх, пры тым — без лішніх цырымоній. Усё гэта паказвае на новае значэнне псіхалогіі. Хоць і няпоўныя і ўсё яшчэ недасканалыя нашы веды пра саміх сябе, але мы ўсе павінны карыстацца здабыткамі псіхалогіі ў імя забеспячэння пажаданых адносін паміж людзьмі і ўмоваў не толькі эканамічнага, але таксама этычнага развіцця чалавецтва.

Майстэрства выхавання патрабуе ад педагогаў ведаў пра псіхіку, яе развіццё і функцыянаванне, таксама як жывапіс і разьба патрабуюць ведаў пра колеры і формы, фарбы і матэрыял, а таксама пра способы малявання або разьбы. Веды па псіхалогіі і педагогіцы патрэбны бацькам і школьным выхавацелям, каб пазбягаць выхаваўчых памылак. Таму хочацца падзяліцца з чытачамі інфармацыямі пра чалавечую псіхіку і магчымасці сям'і ўздзейнічаць на вынікі яе фармавання ў дзяцей і моладзі. Пры гэтым маем намер звяр...ць асаблівую ўвагу на ролю бацькоў у фармаванні асабовасці дзяцей і моладзі ў школьным узросце. Гэта якраз той час, калі вучоба ў школе моцна ўзбуджае пазнавальную актыўнасць дзяцей, само ж наведванне школьных заняткаў уздзейнічае на значнае расшырэнне і ўскладненне сувязей іх з грамадскім асяроддзем. Апрача гэтага, дзіця ў школьным узросце аказваецца тварам у твар перад новымі абавязкамі і новымі праблемамі, якія вынікаюць са школьнай праграмы і прабывання ў вучнёўскім калектыве. Вучоба ў школе развівае ў дзіцяці ўменне больш дакладна назіраць, параўноўваць і рабіць вывады. Пры тым яно прывучаецца падпарадкоўвацца іншым, прымаць ацэнкі, меркаванні і інфармацыі, якія падаюцца аўтарытатыўна школьнымі педагогамі. Бывае таксама, што дзіця ў школьным узросце мае цяжкасці ў аваloданні асноўнымі школьнымі ўменнямі. І іменна таму, іменна ў школьным узросце бацькі патрэбныя як маральныя праваднікі ў свеце новых, складаных адносін паміж людзьмі. Яны неабходны як самыя блізкія і разважлівыя прыяцелі, якія ўмеюць заўсёды ўцешыць, падмацаваць веру ва ўласныя сілы, карысна сфармаваць матывы для вучобы і паводзін дзіцяці.

Сямейнае асяроддзе адыгрывае асноўную ролю ў развіцці зацікаўленняў, накіраванні пачуццяў, фармаванні волі і ўмення думаць. Супольныя перажыванні і блізкія пачуццёвыя сувязі з дзіцём у школьным узросце гарантуюць захаванне гэтых сувязей і потым, у цяжкі час фізічнага яго даспявання і ў бурлівым, як правіла, працэсе грамадскага дарастання цяперашняй моладзі. Таму неабходна авалодаць ведамі, якія дапамогуць захаваць гэтыя сувязі і адпаведна пакіраваць працэсам развіцця асабовасці дзяцей і моладзі.

**др Мікалай Грыгарчук**

# У Старым Корніне

Клуб „Рух" у Старым Корніне (гміна Дубічы Царкоўныя) знаходзіцца ў пажарнай рамізе і займае два памяшканні, з якіх у адным ёсць сцэна. Плошчы тут дастаткова. Абсталяванне прыгожае, функцыянальнае. На століках кветкі і іншыя дэкаратыўныя расліны. Яны таксама пастаўлены на паліцах і ўпрыгожваюць сцэны. Для чытання ёсць чатырнаццаць польскіх і замежных газет і часопісаў.

Клуб — вялікая выгада для вёскі (складаецца яна з 70 гаспадарак). Вядзе яго чацвёрты год Лідзія Барвюк. Апякуецца яна гуртком юных жывапісцаў і разбяроў, арганізуе вечарыны дзіцячых казак, рыхтуе розныя культурныя мерапрыемствы, як, напрыклад, сустрэчы з людзьмі, выконваючымі цікавыя прафесіі. Існуе тут харавы калектыў „Дружба", да якога належаць: Марыя Місеюк, Марыя Сельвясюк, Вольга Герасімюк, Ніна і Антаніна Назаруковыя, Зоя Кулік і Лідзія Барвюк. Жанчыны самі, без прафесійнай дапамогі звонку, прабіваюцца на эстрады мастацкай самадзейнасці. Хор выконвае перш за ўсё старынныя мясцовыя песні. Выступае ў сябе і ў навакольных вёсках, напрыклад, апошнім часам выступаў у новапабудаванай святліцы ў Ягадніках. У старакорнінскім клубе дзейнічае таксама інструментальны калектыў у складзе: Юры Тамашук, Анатоль Канопля, Вячаслаў Божка і Мікалай Чурак. Выконвае ён сучасныя мелодыі.

У клубе адбываюцца ўсе важнейшыя мясцовыя культурныя і культурна-асветныя мерапрыемствы. У арганізацыю іх актыўна ўключаюцца мясцовыя настаўніцы Вера Баравік, Рэгіна Назарук, Ірэна Аляксеюк, Вера Міруць. У вёсцы актыўна працуе КГВ, ЗСМП, ЛЗС і ОСП (добраахвотная супрацьпажарная каманда). КГВ налічвае больш трыццаці асоб. Вясковыя кабеты арганізуюць курсы пячэння. Яны намераны адкрыць пазычальню кухоннага механізаванага абсталявання. Ахвотна ўдзельнічалі ў занятках школы грамадска-палітычных ведаў і на курсе... вадзіцеляў аўтамашын і трактароў.

Моладзь арганізуе танцавальныя вечарыны ў клубе або ў „зялёнай святліцы" на свежым паветры. Тады збіраецца моладзь нават з Арэшкава, Карыціска, Махнатага, Ягаднікаў, Крывяціч, Мора, Старога Беразова. У перапынках паміж танцамі адбываюцца конкурсы і згадуй-згадулі з узнагародамі (шкада, што на іншых забавах гэта рэдкасць або зусім чагосьці такога няма). Тут праводзілі аўтарскія сустрэчы беларускія паэты Янка Чыквін, Віктар Швед і іншыя. У клубе адбываюцца рэпетыцыі мастацкіх калектываў, канцэрты беластоцкай філармоніі, дэманструюцца кінафільмы, з якімі прыязджае кінаперасоўка з Чыжоў (у кожную пятніцу), развітальныя вечарыны для рэкрутаў, розыгрышы ў настольны тэніс, шахматы і шашкі (напрыклад, хто будзе пераможцам у шахматы ў вёсцы). Зімою дык на кулік! У студзені бягучага года моладзь ездзіла ў Грабавец на таварыскую вечарыну. У грамадскім пачыне юнакі і дзяўчаты зімою ачышчалі дарогу ад снегу, вясною добраўпарадкавалі пляцоўку вакол рамізы, адрамантавалі агароджу ды лавачкі ў „зялёнай святліцы". Найлепшыя вясковыя футбалісты сыгралі матчы з камандамі Міклашоў, Піліпкаў і Навасадаў.

**Я. Целушэцкі**

## Наша галерэя



*Мікалай Грыгарчук. Жывапіс. „Баб'е лета". 1976 год.*
*Фота М. Гайдукі.*

**З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ. ДЗІЦЯЧЫ ФАЛЬКЛОР.**

# ГУЛЬНІ

Найбольш распаўсюджанай сярод дзяўчат з'яўляецца „гульня ў „плёткі". Маглі ў ёй прымаць удзел і хлопцы, але найчасцей прыводзіла гэта да насмешак з боку сяброў. Так, як і ў папярэдніх гульнях, не было ў ёй абмежавання ў колькасці ўдзельнікаў, а канкрэтна ўдзельніц. Сядалі, або станавіліся побач, адна брала ў руку парэзаныя на аднолькавыя кавалачкі (столькі, колькі ўдзельніц) саломінкі. Адну з іх крыху скарачала. Высоўвала з рукі роўныя канцы і давала цягнуць. Тая, якой папала карацейшая, ішла „спаць". Здаралася, што значаная саломінка заставалася ў той, ад якой цягнулі. Трэба было тады выбраць асобу на яе месца. Выбіралі яе або на аснове супольнай умовы, таму, што была яна такім самым іграком, што і астатнія, або яшчэ раз цягнулі саломінкі.

Пачыналі гуляць. Тая, якой выпала „спаць", адыходзіла далей і адварочвалася або заплюшчвала вочы. Дзяўчынка, якая вяла жараб'ёўку, або выбраная на яе месца, брала першую-лепшую саломінку, хавала яе паміж зложанымі адна да адной далонямі, падыходзіла да астатніх удзельніц і па чарзе дакраналася да таксама зложаных іх рук. У выніку гэтага аддавала некаму саломінку. Пры гэтым гаварыла наступныя словы:

Жу, жу, жу,
По сэліэ ходжу,
Уганіэтэ, панночко,
Дэ я його положу.

Магла таксама пакінуць саломінку і ў сябе. Пасля гэтага паведамілі „спаўшай". Заданнем яе было адгадаць, у каго ёсць саломінка. Калі адгадае, дык мае замену на сваё месца. Сама тады сядае або становіцца на канцы, а тая ідзе „спаць". Часамі выпадзе ісці „спаць" той, што раздавала. Тады тая, што сядзіць або стаіць у пачатку, ідзе на яе месца. Проста быў гэта свайго роду кругавы цяг — кожны мог „спаць" і кожны мог раздаваць. Калі аднак „спаўшы" не адгадае, ідзе зноў на сваё месца. І так тры разы. Пасля неадгаданага трэцяга разу пераходзілі да наступнага этапу гульні.

Пачыналіся плёткі. Па чарзе падыходзілі да той, што раздавала, і гаварылі ёй на вуха нешта аб спаўшай, прыкладна, што ў яе вялікія вушы, што яна ўчора была там і там ці нешта падобнае. Потым яна клікала дзяўчынку, на якую пляткарылі, і гаварыла ўсё пачутае. Заданнем было адгадаць за першым разам аўтара адной плёткі. Потым усё адбывалася так, як і пры раздаванні, толькі да раздавання саломінкі ўжо не вярталіся, а ўвесь час пляткарылі.

Неаднакратна „плёткі" даводзілі і да плачу, асабліва, калі трэба было слухаць іх паслядоўна некалькі разоў. Набіралі яны часта абразлівую афарбоўку.

Быў гэта трэці тып дзіцячых гульняў. Не значыць, што паміж гульнямі хлопцаў і дзяўчат былі вострыя межы, але ў асноўным падзел такі выступаў. Ужо гульні былі паказчыкам будучага падзелу спраў, заданняў, працы на жаночую і мужчынскую, ужо гульні фарміравалі ў дзяцей характар і пачуццё далейшай сваёй ролі ў сямейным жыцці.

**Янка Леанчук,**
**Міхась Шаховіч**

## Ці ведаеце, што...

...у 1939 годзе ў Міхалове пражывала 5000 асоб (быў гэта адзін з найбольшых гарадоў Беластоцкага павету). У апошнюю вайну горад перажыў праўдзівы катаклізм. Людное местаператварылася ў вялікую вёску, якая яшчэ ў 1950 годзе налічвала ўсяго 1384 чалавекі. У 1968 годзе пражывала тут ужо 2265 асоб і ў 1978 годзе — 2969.

...мястэчка Міхалова ўзяло сваю назву ад прозвішча шляхціца Сэвэрына Міхалоўскага, які меў у сваім уладанні фальварак Нязбудку. Ён заснаваў пасёлак. Найперш пабудаваў 29 дамоў і столькі ж ткальняў, усе аднолькавыя, паводле плана. У жылых дамах пасяліў майстроў. **(яц)**

# ЗАБЫТЫ ПОМНІК

Каб запытаць жыхароў Белавежы, дзе ў іхняй мясцовасці стаіць помнік, пастаўлены ў 132 гадавіну зацвярджэння канстытуцыі 3 мая, бадай мала хто добра адказаў бы. А такі помнік тут ёсць. Я сам даведаўся пра яго толькі нядаўна, калі шукаў у Белавежы цікавыя закавулкі для ўвекавечання на плёнцы.

Стаіць ён, мала прыкметны, на рагу вуліцы ген. Вашкевіча і Броўскай, усунуты крыху ў пляц, прыналежны дому парафіяльнага ксяндза. На невялічкім пастументе ўзвышаецца металічны крыж з фігуркай распятага Хрыста. На цэментнай дошцы ў цэнтры пастумента выгравіраваны даты: 3 мая 1791 — 3 мая 1923.

Цікава, ці хтосьці са старэйшых белавежцаў памятае, як ставілі гэты помнік?

**П. Байко**
Фота аўтара



## ГМІННЫЯ НАВІНЫ

### ШТО НОВАГА БУДУЕЦЦА?

У Мілейчыцкай гміне 126 кіламетраў дарог, у тым ліку 35 км з асфальтаваным палатном і брукаваных. У мінулым годзе было навезена жвіру на наступныя адрэзкі дарог: Харашчэва-Харашчэва калонія, Любейкі-Валкі, Харашчэва-Валкі, Грабарка-Клімковічы. Апрача таго, пракладзены брук у Мядзвежыках і адрамантаваны чатыры вуліцы ў Мілейчыцах: Крывая, Новы Свет, Малая і Сцалянёвая. У той жа год былі пабудаваны пачакальні — дашкі на аўтобусных прыпынках ПКС у Пакаkeve і Сабятыне. Сёлета будзе пабудавана будка на прыпынку ПКС у Харашчэве.

У 1978 годзе адрамантавана было 18 км даязных дарог да сенажацяў і пасбішч на 13 млн. злотых. Пабудаваны ў вёсках чатыры супрацьпажарныя басейны, меліяравана 34 га зялёных угоддзяў і загаспадарана 854 га.

У бягучым годзе ў Мілейчыцкай акрузе ідзе рамонт дарогі з Мілейчыц у Клімковічы. Да канца года будуць пабудаваны ў грамадскім пачыне стражацкая раміза ў Сабятыне і злеўня малака ў Харашчэве. **(яц)**

## Беларуская літаратура

Аляксандар Баршчэўскі

## НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЯКУБ КОЛАС — ЧАСТКА XLI

Варта затрымацца над апошнімі выказваннямі крытыкаў аб найвыдатнейшым вершаваным творы не толькі ў творчасці Коласа, але і ва ўсёй беларускай літаратуры.

Першым даследчыкам, які пасля многіх гадоў недарэчлівых або моцна блытаных поглядаў на „Новую зямлю" сказаў аб гэтым творы каштоўнае слова, быў А. Адамовіч. У артыкуле, змешчаным у „Полымі" ў 1957 годзе, Адамовіч адкінуў усе містыфікацыі і ацаніў гэты твор, зыходзячы з яго зместу і тых грамадска-палітычных умоў, у якіх ён быў напісаны. Адамовіч выступіў і супраць вульгарных крытыкаў, якія ўбачылі ў „Новай зямлі" праяў архаічнасці, адсталасці і апалогіі кулацтва, і проціў тых, якія даказвалі, што ў паэме прапаведуюцца ідэі рэвалюцыі і імкненні да сацыялістычных форм землеўладання.

Погляды Адамовіча былі вельмі наватарскімі, калі прымаць пад увагу тое, што гаварылася аб „Новай зямлі" ў трыццатыя і саракавыя гады. Калі аднак супаставіць іх з крытыкай з дваццатых гадоў, дык пераканаемся, што змяшчаюцца яны поўнасцю ў яе рэчышчы. Такім чынам Адамовіч вярнуўся да таго рацыяналізму, які быў характэрны для многіх беларускіх даследчыкаў у перыяд першага дзесяцігоддзя БССР.

Артыкул Адамовіча меў, несумненна, пераломнае значэнне ў трактоўцы „Новай зямлі", хаця новае тут праяўлялася ў звароце да старога. Аднак і пасля яго з'яўлення некаторыя крытыкі ў сваіх публікацыях, хаця і не падтрымлівалі адкрыта поглядаў аб рэвалюцыйным характары „Новай зямлі", то ўсё ж-такі ў пэўнай ступені вярталіся да канцэпцыі Пшыркова, які ўбачыў у паэме праяў радыкальных ідэй. Прыкладам можа быць выказванне выдатнага крытыка А. Лойкі, які напісаў: „Новая зямля" — неўміручая слава нашай паэзіі, неўміручая зорка ў сузор'і лепшых твораў Я. Коласа, класічны ўзор літаратуры сацыялістычнага рэалізму".

У сказаным выклікае супраціў залічэнне крытыкам „Новай зямлі" да напрамку сацыялістычнага рэалізму. Твор гэты, на нашу думку, з'яўляецца класічным узорам крытычнага рэалізму.

Заканчваючы інфармацыі аб „Новай зямлі", хацелася б далучыцца да тых усіх крытыкаў і чытачоў, якія бачаць у гэтай паэме праяў геніяльнасці пісьменніка, выключную прыгажосць беларускай прыроды, духоўнае харазтво беларуса, захапляючую прывязанасць і адданасць роднай зямлі, культ працы, ідэю сямейнай гармоніі, пахвалу чалавечай мэтанакіраванасці.





**Родныя краявіды,** *У ваколіцы Новага Двара.* *Фота М. Гайдука.*

(Працяг са стар. 1)

## ЯЎХІМ ВЯРБА

куль перазарадзіш гэтую зброю, у замок наб'ецца поўна пяску і ўжо хана, засечка... А немцы з аўтаматамі. І ў нас яны былі, толькі мала, ды нашы аўтаматы дваццацізарадныя, а ў немцаў на 25 куль. А гэта на полі бою вялікая ўжо розніца...

✲

Давялося адступаць. На зборным пункце ў лясочку аказалася 16 чалавек. 16 чалавек са 160 салдат і афіцэраў, якія тры дні раней увайшлі ў бой. Другая лінія абароны выпала на берагу ракі Нараў.

— Немцы рваліся наперад. На хуткіх маторных лодках намагаліся пераплыць раку, — успамінае наш герой. — Тады я накасіў іх, ой накасіў! Ніводная лодка не пераскочыла раку, пакуль трымаў я ў руках свой кулямёт.

Немцы, аднак, увялі ў бой артылерыю і змасіраваным залпам за адным ударам абклалі іх вогненныя пункты. Адзін са снарадаў разарваўся побач кулямётчыка Яўхіма Вярбы. Ад выбуху яго параніла ды яшчэ прыкрыла зямлёй. Іншыя салдаты адступілі. І тады агледзеліся, што не хапае Вярбы з яго неадлучным кулямётам. Вярнуліся і знайшлі непрытомнага, але яшчэ цёплага.

— Санітары прамылі мне рот і вочы, ды, прывязаўшы да нейкай дошкі, каб не мог варухнуць ні рукой, ні нагой, адправілі ў Варшаву. 24 кіламетры везлі мяне на падводзе. А тут, у сталіцы, давялося мне быць аж у трох шпіталях, бо немцы безупынку бамбілі горад. Толькі паспеюць перамясціць хворых, намалююць на даху чырвоны крыж — і ўжо бомбы ляцяць. Аднойчы я выглянуў на вуліцу, а там, бачу, ляжыць жанчына з малым дзіцём. Дзіця без ног, а ў жанчыны жывот разарваны. Успомніў я сваю жонку, якая таксама засталася дома з малым дзіцём, і свет у вачах мне закружыўся. Я абамлеў...

✲

Доўгі час не мог ён слова прамовіць, быў нямы і глухі. А калі пачаў крыху гаварыць, дык і вайна ўжо закончылася. Трапіў у палон.

— Найперш нас трымалі ў жалезных ангарах на аэрадроме ў Гуры Кальварыі. Холадна было страшэнна, а я яшчэ хворы. Праз некалькі дзён выгналі нас на бераг ракі і загадалі распрануцца.

Пагналі нас у ваду. Лёд ужо стаяў на рэчцы, а мы яго ламалі голымі пяткамі, ды ішлі, бо немцы пагражалі, што будуць страляць...

Пасля быў лагер для ваеннапалонных у Мінску Мазавецкім. За дротамі, пад адкрытым небам, у дождж і мароз, без вады і лекарскага догляду. Гэта там за буханак хлеба прадаў ён адзіную каштоўную рэч, якая ў яго яшчэ засталася — наручны гадзіннік...

Выратавала яго тое, што нарадзіўся на Беласточчыне, бо на аснове дагавору з Савецкім Саюзам жыхароў заходняй Беларусі немцы адпускалі на радзіму. Такім чынам Яўхім Вярба апынуўся ў Брэсце, дзе ўпершыню дасыта наеўся і напіўся, а затым адшукаў жонку ў Кошках.

✲

Жыццё правёў ён спакойна. Быў рамеснікам, шкліў вокны, рабіў люстэркі. Цяпер на пенсіі.

**Віктар Рудчык**

(Працяг са стар. 1)

## ПАХ ВОСЕНІ

вацца. Ім жа лепш жывецца, як нам. Дапамаглі мы ім кватэры абсталяваць, пакуплялі аўтамабілі, ды і годзе...

— Ніхто цябе не прымушае, — яна мне на тое. — А я што зімой буду рабіць? Ты сядзіш і ў тэлевізар узіраешся. Ад гэтага табе і атава ў галаве завялася... А я што? Хопіць мне паўгадзіны паўзірацца ў гэтую мігатлівую скрынку — і ўжо сон вочы клеіць, хоць ты павекі запалкай падпірай. Ды і наш гурток вясковых гаспадынь, — гаварыла безупынку мая Палашка, — прыступіў да конкурсу на найпрыгажэйшае пакрывала, вытканае па даўнейшых мясцовых узорах. Дык што? Я маю быць апошняй? О, не! Пакажу я ім, што яшчэ патраплю!

— Узор ты ўжо прыдумала? Які ткаць будзеш? — зацікавіўся я.

— А памятаеш, якой быў прыкрыты наш воз, калі мы са шлюбу вярталіся? — нечакана запытала яна і павяла мяне да пасажнага куфра, у якім на самым дне ляжала, засыпаная нафталінам, гэтая шлюбная капа. Каб да яе дабрацца, давялося выгрузіць усё, што было зверху. І раптам аказалася, што пад векам старамоднага пасажнага куфра захавалася цэлая гісторыя нашага супольнага жыцця. Кожная дробязь, ці то нейкая хустачка, сукенка, запонка, кальцо, ці кавалак недагарэлай свечкі, напаміналі нам нейкі эпізод нашых змаганняў з суровым лёсам.

— Поля, як ты думаеш, — запытаў я жонку, — правільна пражылі мы нашае жыццё?

— А ты што? — здзівілася яна. — Хіба ўміраць збіраешся, што пра гэта пытаеш? Толькі што ж табе на атаву хацелася ісці спаць, — засмяялася яна крыху штучным смехам.

— Насмуродзіла ты тут нафталінам, — гавару я ёй, а гэта ж пах восені, пах нашага ўзросту, бо моль старасці, здаецца мне, усё смялей да нас падкрадаецца...

Глыбока ўздыхнула мая Палашка і кажа:

— Жыццё наша працай значыцца. Паглядзі, — паказала яна сваю пасажную скрыню, — няма тут нічога чужога. І дзяцей мы сваіх гэтаму самаму навучылі...

Так, гэта праўда. А ўсё ж сумныя думкі наводзіць восень.

**Максім Нурэцкі**



(Працяг са стар. 1)

## МАЮ ПРАВА ГАНАРЫЦЦА...

чай крыніцы для ўзмацнення душы. Наогул у нас дома было многа чаго з выданняў і на беларускай мове і пра Беларусь. Імі я зачытваўся яшчэ будучы ў другім ці трэцім класе гімназіі.

І тут неабходна прыгадаць, што мой размоўца — Зыгмунт Абрамовіч — нарадзіўся ў Маскве 25 чэрвеня 1892 года ў сям'і ваеннага лекара. У залежнасці ад службовых накіраванняў бацькі жыў і вучыўся ў Маскве, Омску, Гродне, але амаль усе вакацыі праводзіў на Беларусі. У яго вельмі рана выявіліся зацікаўленні тэатрам. Яшчэ хлапчуком, наведваючы сваякоў у Вільні, любіў дэкламаваць і інсцэнізаваць вершы, выступаць у п'есах на розных сямейных вечарынках. І адбывалася гэта з удзелам не абы-каго, але самой дачкі Ф. Багушэвіча! У Гродне ён пазнаёміўся з Людвікай Сівіцкай (Войцікавай) і вельмі актыўна ўдзельнічаў у працы Гродзенскага гуртка беларускай моладзі. Гурток праводзіў цікавыя вечарыны, распаўсюджваў беларускія выданні, наладжваў лекцыі пра Беларусь, стварыў драматычны калектыў. Рэжысёрам і акцёрам у ім быў якраз З. Абрамовіч. Выступленні адбываліся ў Гродне і навакольных вёсках, а таксама каля Новага Двара і Саколкі. Недзе ў тым жа часе ён стаў пільным чытачом „Нашай нівы", змясціў у ёй некалькі перакладаў вершаў у прозе І. Тургенева на беларускую мову. І вось...

— Улетку 1911 года, гэта ўжо праз год пасля смерці на прывезеныя з руска-японскай вайны сухоты майго бацькі — я прыехаў з Масквы ў Слуцк на канікулы. Вельмі хацеў адпачыць, бо год у мяне быў надта цяжкі: балюча перажыў я смерць бацькі, вучыўся ў гімназіі і адначасова займаўся ў тэатральнай студыі. Ажно, шпацыруючы па гораду, бачу афішу аб прыездзе ў Слуцк беларускага тэатра Ігната Буйніцкага. Мяне вельмі зацікавіла гэтае выступленне, асабліва падабалася дасканалае выкананне беларускіх народных песень і танцаў. Заходжу я за кулісы, каб павіншаваць артыстаў з удачай, і тады І. Буйніцкі прапануе мне прыняць удзел у яго тэатры. Назаўтра пад нашу шыкарную генеральскую вілу пад'ехала растрэсеная балагольская фура-буда, запханая акцёрамі і рэквізітамі. Вакол яе сабраўся натоўп цікаўных, і якое ж здзіўленне ды жах маляваўся ў вачах людзей, калі яны ўбачылі, што я — выпешчаны генеральскі сынок — таксама лезу з чамаданамі на гэтую ж фуру! Што ж, гэта была незабыўная вандроўка з Ігнатам Буйніцкім па Беларусі. Пра яе я пісаў у лістападаўскім нумары „Полымя" за 1971 год. Выконваў я характэрныя ролі, між іншым, Пранцішка ў „Модным шляхцюку" К. Каганца.

Пасля заканчэння ў 1913 г. гімназіі З. Абрамовіч паступіў у Маскоўскі археалагічны інстытут, жыў у роднага дзядзькі С. Галаўні ў Загорску, там стварыў і вёў драматычны гурток, які ставіў п'есы А. Астроўскага і іншых рускіх драматургаў. У часе першай сусветнай вайны ён быў на фронце.

— У гадах 1917-1919 я некалькі разоў быў у Мінску. Тады яшчэ ўбачыўся з Ігнатам Буйніцкім. Як сёння, памятаю вечарыну ў „Беларускай хатцы", на якой І. Буйніцкі з Л. Сівіцкай танцавалі ў першай пары „Лявоніху". У тым жа клубе беларускай моладзі, а вяла яго маці Людвікі — Эмілія Сівіцкая, я ўпершыню ўбачыў Максіма Багдановіча. Задуменны, паважны, ён чымсьці нагадваў мне Антона Чэхава. Усе адносіліся да яго з вялікай пашанай як да выдатнага паэта. Хто тады мог падумаць, што неўзабаве ў Крыме чакае паэта не аздараўленне з сухотаў, але заўчасная магіла...

У міжваенны час З. Абрамовіч працаваў у Несвіжы, Навагрудку, Вільні, настаўнічаў. Пра той час ён успамінае ў сваім артыкуле „Візітацыя", што быў змешчаны ў „Ніве" ў 1957 г. Нямецкую

## АДГАЛОСКІ

# ЧАМУ МОЛАДЗЬ УЦЯКАЕ З ВЁСКІ

Я не па сваёй волі жыву ў горадзе. Так хацеў лёс, якому я паддаўся. Але па сённяшні дзень сумую па вёсцы. Хтосьці можа сказаць: сумуеш, бо не ведаеш вясковага жыцця. А вось іменна, што ведаю, бо гаспадарыў у далёка горшых умовах, чым цяпер. Я яшчэ ведаю, як араць драўляным плугам і як смакуе зялёны ад парахна хлеб. У горадзе я апынуўся, калі прызвалі мяне ў войска. А дадому не вярнуўся не таму, што пакахаў горад, а таму, што не было куды вяртацца. Дома ніхто мяне не чакаў, там была мачыха са сваімі сынамі.

У войску мяне пераканалі, каб застаўся на прафесіянальную службу, і я згадзіўся, але толькі на адзін год. І вось, калі давялося развітацца з калегамі, якія адслужылі сваю службу і вярталіся ў родныя вёскі, я з Васем Сахарчуком зайшоў у рэстаран. Там мы сядзелі над кілішкам гарэлкі і вялі гутарку над маім рашэннем і яго вяртаннем дамоў. Мне страшэнна не хацелася заставацца аднаму на далёкай Жэшоўшчыне, і я падгаварваў Васю, каб таксама застаўся ў войску. А Вася ў сваю чаргу пачаў пераконваць мяне, якое прыгожае жыццё на вёсцы. Ніколі не забуду яго слоў: „Гарадское жыццё, брат, не для мяне. Я люблю выйсці рана ў поле і радавацца ўсходу сонца, гоману птушак. Я там жыву, як у раі“. Пасля тых слоў цяжар залёг у маім сэрцы, але што было рабіць, калі я ўжо падпісаў дэкларацыю.

Я таксама люблю, калі зеляненюць палі, калі бляе авечка, а ягнятка смешна падскаквае каля яе. Я люблю хруканне парасятак, люблю, калі равуць каровы, якія вяртаюцца з поля, і нават вясковы брук люблю. І праца пры ўсім гэтым мне не надакучыла. Можа ў горадзе і лягчэйшае жыццё, але напэўна менш цікавае. Так, так, не смейцеся. Усё залежыць ад таго, як на яго глядзіш. Я не хачу вымагаць, каб раптам усе сталі рамантыкамі і на вясковае жыццё глядзелі вачыма Васіля Сахарчука, бо гэта немагчыма. Але трэба, каб глядзелі рэальна. А цяперашняя рэальнасць такая, што жыццё змянілася ў горадзе і на вёсцы і падпарадкавалася з'яве, імя якой — цывілізацыя. А цывілізацыя гэта не толькі адукацыя, тэатр, кіно і іншыя дасягненні культуры. Гэта таксама: копаць з тысячаў-тысячаў машын, дым з фабрычных камінаў, пыл з металургічных, з цэментавых заводаў, якіх усё больш.

Селянін есць бульбу, якую хоча, а гараджане — якую купяць. А ўсе ведаюць, што ў горад ніхто не дае плёнаў зямлі на натуральных угнаеннях, а на штучных. Гэта значыць, што я з'ядаю намнога больш розных штучных угнаенняў, чым гаспадар, і таму многа больш у горадзе хварэюць на розныя „цывілізаваныя“ хваробы.

Вясковы чалавек жыве памалей і даўжэй, бо і раней устае, і цэлы дзень працуе, а не на змены, як на многіх прадпрыемствах горада. Ён бачыць, як жыта ўсходзіць, як яно цвіце і як даспявае. Чуе спеў птушак, сімфоніі, напісаныя самой прыродай, а не недасканалым чалавекам, хоць бы найбольшым геніем. Прытым музыка прыроды яшчэ нікому не надакучыла, а з музыкай, створанай чалавекам, па-рознаму бывае. Ды справа не толькі ў музыцы. Селяніну дрэнна жывецца толькі тады, калі ён лянівы, або калі прыдуць упадкі жывёлы, ці як мае дрэнную зямлю. Стыхіі не бярэм пад увагу, бо гэта няшчасце для ўсіх.

Разумны і зарадны селянін куды лепш і здаравей жыве, чым рабочы. Калі хто мне не верыць і зазлуе на выказанае, няхай пагаворыць з маім сябрам Васілём Сахарчуком. Ён добры гаспадар, добры размоўца і жыве ў вёсцы Сухавольцы, гміны Кляшчэлі. І на месцы цяперашняй моладзі, я пхаўся б у горад толькі па адукацыю, а пасля вяртаўся б на вёску і гаспадарыў бы сярод сваіх людзей.

**В. Петручук**

# ПА-ГАСПАДАРСКУ

У Мілейчыцкай гміне сёлета пачалі працаваць: зборная гмінная школа ў Мілейчыцах, васьмікласная школа ў Рагачах і дзве філіяльныя школы ў Паканеве і Валках. Ва ўсіх іх тэрмінова былі закончаны бягучыя рамонты. Забяспечаны яны таксама вугалем.

гміне пачало навучаць 27 настаўнікаў. У мілейчыцкай школе займаецца 350 вучняў, з якіх 243 штодзень даязджаюць на занятк і школьнымі сродкамі транспарту: двума аўтобусамі „Санам“ і „Ельчам“ з прычэпай. Толькі шэсць асоб даязджае аўтобусамі ПКС.

**(яц)**

# У ГРАМАДСКІМ ПАЧЫНЕ

У бягучым годзе жыхары горада і гміны Саколка выканалі грамадскіх пачынаў на суму 8 мільёнаў злотых. У Саколцы зроблены газоны на цэнтральным жыллёвым пасёлку і распачата пракладка тратуараў па вуліцах Крынскай і Спулдзельчай. У пачыне будуюцца зараз яслі і прадшколле на 120 месц.

Вяскоўцы будуюць і рамантуць мясцовыя дарогі. На пахвалу заслугоўваюць сяляне з вёсак: Камёнка, Геніюшы, Заспіча, Ігрылы.

**(яц)**

акупацыю пражыў у Ашмянах. Пасля вызвалення пераехаў разам з сям'ёй у Ольштын і там да 1953 г. працаваў публіцыстам у мясцовай газеце. Гэта ён як першы польскі журналіст наведаў вызвалены ў 1945 г. Фромбарк і намагаўся цераз міны і развалiны прабрацца ў тую вежу, дзе жыў і працаваў Мікалай Капернік. Многа працы ўклаў З. Абрамовіч у пасляваеннае засяленне і загаспадаранне Вармii і Мазураў. З уласнымі ўспамінамі і сабранымі дакументальнымі матэрыяламі з гэтай дзялянкі ён потым выступіў у дакладах і публікацыях Навуковага савета Міністэрства адзысканых зямель. З 1953 па 1968 г.г. ён працуе настаўнікам рускай мовы ў агульнаадукацыйным ліцэі ў Златове. Карыстаецца вялікім аўтарытэтам як дасканалы спецыяліст па гэтаму прадмету, яму даручаюць пасаду візітатара-метадыка рускай мовы. Але ўсё ж перамагае цяга да культурна-асветнай дзейнасці, да тэатра, і ён пераходзіць на работу ў павятовы Дом культуры ў Златове, займаецца інструктажом самадзейных тэатральных гурткоў, навучае сцэнічнаму мастацтву ў народных універсітэтах, актыўна дзейнічае ў Таварыстве польска-савецкай дружбы, з'яўляецца адданым членам Странніцтва дэмакратычнага. У той жа час утрымоўвае жывую сувязь з многімі дзеячамі культуры Беларускай ССР. Асабліва цёпла ўспамінае З. Абрамовіч сардэчны прыём, які зрабілі яму Беларускае тэатральнае аб'яднанне, драматургі, мастакі і пісьменнікі ў часе яго пабыўкі ў лістападзе 1971 года ў Беларускай ССР. Тады ён выступіў з успамінамі пра сваю акцёрскую дзейнасць, супрацоўніцтва з І. Буйніцкім і іншымі дзеячамі беларускага тэатра, наведаў мясціны, дзе яму даводзілася жыць і выступаць на сцэне. За самаахвярную працу і актыўную грамадскую дзейнасць З. Абрамовіч узнагароджаны Кавалерскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы двойчы Залатым знакам ТППР, Залатым знакам „25 год СД“, яму прысвоена ганаровае званне Заслужанага дзеяча культуры і інш. Ён толькі нядаўна перайшоў на пенсію і, нягледзячы на свае паважныя гады, яшчэ ўдзельнічае ў грамадскай працы. Жыве З. Абрамовіч з жонкай, дзеці: сын — псіхолаг, працуе ў бальніцы, дачка — біёлаг, настаўнічае.

— Калі я аглядаюся на мінулае, — заўважае З. Абрамовіч у канцы нашай размовы, — лічу, зусім не задзіраючы нос, што маю права ганарыцца тым, што меў я магчымасць удзельнічаць думкай, словам і працай у беларускім нацыянальным адраджэнні.

Мы ад усяго сэрца жадаем шаноўнаму пану Зыгмусю — на сцэне: Антону Забелю — добрага здароўя і доўгіх год жыцця.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара



*Пасеўшы за застаўленым ежай сталом, жанчыны пачынаюць спяваць.*

**У НАШЫХ САМАДЗЕЙНІКАЎ**

# Меляшкі

Вёска няспынна змяняецца. Не чуваць ужо песень у вячэрнім тумане. А некалі іх дружна ўсе спявалі, сабраўшыся пасля працавітага дня на лавачцы. Гэта ўжо прыемны ўспамін мінулага, які жыве ў сэрцах людзей. Меляшкоўскія жанчыны часта вяртаюцца ўспамінамі да сваёй маладосці. Яны стараюцца перанесці гэта на сцэну і паказаць адышоўшую вёску шырэйшаму кругу людзей. Паказалі яны вяселле з яго поўным абрадам, вясковую вечарынку, дажынкі і іншыя цікавыя сцэнкі з жыцця вёскі.

На сцэну самадзейнікі з Меляшкоў (24 асобы) прыйшлі сем гадоў таму назад. Выступалі на аглядах з фальклорнымі песнямі. Ставілі таксама гатовыя п'есы, прыкладна, „Мікітаў лапаць“. У гэтым годзе выступалі з адной са сцэнак, узятых з багатых вясковых абрадаў — „Адведкі“ паводле супольна прадуманага сцэнарыя. Поўнасцю вясковая атмасфера. Збіраюцца жанчыны ў хаце парадзіхі, складаюць пажаданні, гасцююць. Пасеўшы ля застаўленага напіткамі і закускай стала, пачынаюць спяваць. Зусім, як некалі на вёсцы. Трапна падабраны дыялагі і дэкарацыя. Адведкі былі ўмела перададзены гледачам, так што не страцілі свайго праўдзівага каларыту, гумару і ўрачыстасці. Гэтак яны адбываюцца на вёсцы. Уражанне са спектакля застаецца надоўга. У вушах не сціхаюць народныя песні з Гарадоцкай акругі. Цікавы кадр з жыцця вёскі.

Меляшкоўскія самадзейнікі зімою зноў збяруцца грамадою і нешта прыдумаюць. Цікава, што?

**Тэкст і фота Я. Целушэцкага**



*Ля калыскі Валянціна Дарашкевіч.*

# ЛЮДЗІ ЕЗДЗЯЦЬ І НЯДЗЕЛЯМІ...

У Бельску два вакзалы — аўтобусны і чыгуначны, адзін побач другога. Штодзень ад раніцы да вечара праходзіць сюдою шмат людзей. Адны прыехалі і пайшлі ўладжваць свае справы, іншыя чакаюць перасадкі, наступныя з надзеяй выглядаюць свайго аўтобуса. Звычайным днём дык усё звычайна. Цягнікі спазняюцца, як і спазняліся, аўтобусы не ходзяць згодна са сваім няпісаным законам, але хаця можна супакоіць смагу бутэлькай аранжады ці мінеральнай вады, перабіць голад талеркай супу або бутэрбродам. Ёсць тут два спажывецкія кіёскі і прывакзальны буфет. Але ў нядзелю, калі неаднакратна трэба чакаць аўтобуса некалькі гадзін? Усё закрыта, апрача газетнага ларка і будкі з марожаным. А піць часамі так хочацца. Некаторыя і з дзецьмі едуць. Іх жа паясненнем, што няма дзе купіць, не супакоіш. Пайсці ў цэнтр горада ў рэстаран, дык аўтобус або цягнік адыйсці можа. Ці ж тады нельга адчыніць на нядзелі хаця адзін тутэйшы пункт продажу? Людзі ж ездзяць і нядзелямі...

**(мш)**

**Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р**

# ВЯСЕЛЬНАЯ



*Ты, зязюлько, мая родна,*
*ні праўдзівая птушка —*
*а як я ў лесе была,*
*то ты мне накавала:*
*сем лет дзеўкаю быці,*
*з руты вяночка насіці.*
*А як я дадому прышла,*
*то сваткі дома нашла:*
*коснікі па падвор'ю,*
*сватачкі па застолью.*

Ад Антаніны Лясоты, 1901 г. нараджэння, вёска Цісоўка гм. Міхалова, якая цяпер жыве ў Беластоку, запісаў у сакавіку 1979 г. Мікалай Гайдук, мелодыю расшыфравала Людміла Панько.

## MOTO—ROCK

Фота па заказу



## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: М. займаў кватэру ў жыллёвым кааператыве разам з жонкай. Жонка яго, забраўшы дзіця, выехала ў другі горад, дзе звязалася з іншым мужчынам. Да М. на кватэру пераехала маці. Праз чатыры гады М. памёр. Яго жонка звярнулася ў праўленне кааператыва, і той прызначыў ёй кватэру. На гэтай аснове яна хоча высяліць маці, прызначыць якой кватэру праўленне кааператыва адмовілася. Ці маці прыслугоўвае права на кватэру і як яна можа яго дабівацца? Яна накіравала справу ў суд, але не ведае, ці гэта паможа.

АДКАЗ: Асобе, блізкай наймальніку кааператыўнай кватэры, якая з ім пражывае, прыслугоўвае права на гэту кватэру пасля смерці наймальніка. Жонка яго, хоць і не пражывала з мужам, мае таксама права на гэту кватэру. Калі пасля смерці наймальніка кааператыўнай кватэры астаецца некалькі асоб, якія маюць права на кватэру, тое, каму прызнаць кватэру, вырашае праўленне кааператыва. Не значыць гэта, што суд не мае права кантраліраваць рашэнне кааператыва. У нашым прыкладзе жонцы, калі б яна жыла з мужам, безумоўна, прыслугоўвала б першынство. Аднак дыскваліфікуюць яе несалідныя паводзіны. Маці павінна накіраваць позву супраць кааператыва і жонкі сына і патрабаваць, каб кааператыў прыняў яе ў члены і прызнаў ёй кватэру. Калі б суд гэтыя патрабаванні ўзяў пад увагу, маці абавязана была б заплаціць кааператыву ўзнос. Узнос, заплачаны яе сынам, кааператыў вымушаны быў бы вярнуць жонцы, якая разам з дзіцём атрымоўвае ў спадчыне па мужу ўсю яго маёмасць.

## Куток практычных ведаў

Як зварыш, так і з'ясі

### РУЛЕТ З КАПУСТЫ

Узяць; 6—8 лісцяў капусты, паўкілаграма свініны, 1 булку, 1 яечка, соль, перац, 30 дэкаў памідораў, 2 цыбуліны, валашчыну, 2 зубкі часнаку, зялёную пятрушку.

Лісце капусты абварыць на працягу 15 мінут у пасоленай вадзе, пасля чаго спаласнуць іх халоднай вадой і зрэзаць жылкі. Мяса заліць у каструльцы 2 літрамі вады, дадаць валашчыну, 1 зубок часнаку, 1 цыбуліну, соль і перац, накрыць і варыць 45 мінут. Аддзяліць мяса ад касцей, мяккае мяса прапусціць праз мясарубку разам з намочанай булкай. Дадаць соль, яечка, перац, сцертую на тарцы цыбуліну, пасечаны зубок часнаку і добра размясіць масу. Лісце капусты разлажыць на дошцы так, каб атрымаўся прамавугольны пласт, змазаць яго фаршам, загартаючы ў сярэдзіну два супрацьлеглыя канцы. Пасля гэтага згарнуць, як рулет, і звязаць тоўстай ніткай. Палажыць у шырокую каструльку ці брытфану, заліць працэджаным наварам, варыць каля гадзіны. Стушыць памідоры, працерці праз сіта і дадаць да рулета на 10 мінут перад заканчэннем варкі. Падаваць рулет з рысам або бульбай.

### КАТЛЕТКІ З КАПУСТЫ

Бярэм: качан капусты сярэдняй велічыны, 4-5 лыжак сцертай булкі, 2 яечкі, лыжку тлушчу, вялікую цыбулін соль, перац, можна ўзяць таксама 10 дэкаў пячурыц.

Капусту парэзаць у чвэрткі і зварыць. Звараную, добра адціснуць. Пасячы яе дробна, дадаць яечкі, цёртую булку, соль, перац, нарэзаную і падсмажаную цыбуліну (і пячурыцы). Усё добра размяшаць. Рабіць маленькія катлеткі, мачаць іх у цёртую булку, смажыць на добра разагрэтым тлушчы.

**Гаспадыня**



## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, я чытаю твае парады і бачу, што пішуць да цябе дзяўчаты, а часам і хлопцы, найчасцей аб каханні. А ў мяне іншы клопат. У гэтым годзе пайшла я першы год у сярэднюю школу ў горад. Бацькі доўга шукалі мне кватэру, урэшце знайшлі. Летняя кухня, асобны домік на панадворку гаспадароў. Пакоік і куханька. Але там ужо раней жыла дзяўчына, якая працуе ў Беластоку. І я стала жыць разам з ёю. Ад першага дня Ева запрашае да сябе сяброўак. Сядзяць доўга, колькі ім падабаецца. Думала я, што гэтак час ад часу яны заседжваюцца. Але дзе там, штораз горш. Бо прыходзяць ужо і хлопцы, і гарэлка пачынаецца. Яны і мяне запрашаюць да сябе. Я адмаўляюся, дык сяброўка кажа, што гэтак брыдка. Гаспадар туды не заглядае, мо і не ведае, што тут дзеецца. А я баюся яму сказаць, бо пагневаецца на мяне сяброўка. І кватэру змяняць шкада, бо блізка школа. Цяпер то яшчэ я з урокамі ўпраўляюся, але як будзе іх больш, што тады?

Аля

Аля! Так далей быць не можа. Вучань павінен мець спакойны куточак, каб вучыць урокі. Ева, відаць, любіць вясёлую кампанію і зусім не зважае на цябе — вучаніцу. Ты пагавары з ёю. Ты ж сюды прыйшла, каб вучыцца. Калі гэта нічога не дасць, нягледзячы на ўсё, скажы гаспадару. Ён павінен Еву прывесці ў парадак. Калі і гэта не паможа, звярніся да класнага выхавацеля. Школа зацікаўлена ўмовамі жыцця і працы вучня. Бярыся за справу неадкладна, бо можаш нарабіць сабе клопатаў у вучобе.

**Сэрцайка**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Паважаны Астроне! Сніцца мне, што знаходжуся я ў велізарным, з тоўстымі сценамі, цёмным будынку. Гляджу ў акно і чую, проста бачу страшэннае выццё ветру і дзе-недзе несеныя ім сняжынкі. Пасля выходжу ў калідор і бачу вялікі пажар: гараць сланы, каровы і, звугленыя, бегаюць ды равуць. Далей ужо знаходжуся ў хаце. Хата мая — не мая і гляджу, што прыехаў да мяне дзядзька, які ўжо не жыве. Падаў мне руку. Я пачаў распрагаць каня, а ён пайшоў у хату. Пасля я гукаў да яго: „Дзядзьку!“ А ён адзываўся: „Го!“ А калі я зайшоў у пакой, у якім ён быў, убачыў, што ён спіць у белай пасцелі.

Васіль

**Васіль!** Твой сон папярэджвае цябе аб нейкім цяжкім моманце ў тваім жыцці. Ты ж апынуўся ў цёмным будынку, а сцены ў ім былі вельмі тоўстыя, і гэта сведчыла б аб тым, што будзеш мець нейкія перашкоды, а страшэннае выццё ветру яшчэ пацвярджае гэта. Можа, з тваім арганізмам нешта не ў парадку! Пайдзі да доктара і праверся, бо ты, здаецца, надта падатны на прастуду. Глядзі, каб не злёг у пасцель, як твой дзядзька-нябожчык, бо той пажар з абвугленаю жывёлаю мне не надта падабаецца. Абазначае ён, што ў хуткім часе чакае цябе хвароба ад прастуды і праходзіць яна можа вельмі востра (равелі ж гарашчыя сланы і каровы). Доктар, аднак, табе дапаможа, за гэта гаворыць той конь, якога ты распрагаў, і ўсё ж тое, што сніўся табе нябожчык. Сустрэча ўва сне з нябожчыкам не абазначае дрэннае. Наадварот — можна спадзявацца, што выйдзеш з непрыемнага або цяжкага становішча.

**Астрон**

## ТАЙНЫ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ




— Менавіта гэтак жа было, напрыклад, з карцінай Рэмбранта „Зняцце з крыжа“. Ён напісаў яе для галандцаў. Карціну ўбачылі пасланнікі Польшчы і Расіі і загарэліся жаданнем купіць яе. На жаль, карціна не прадавалася. Тады пасланнікі ўпотай адзін ад аднаго паспрабавалі дамовіцца з Рэмбрантам, каб ён напісаў новае „Зняцце з крыжа“. У выніку на свет з'явіліся і існуюць дагэтуль тры карціны „Зняцця з крыжа“. Першая знаходзіцца ў Нідэрландах, другая — у Ленінградзе, трэцяя — у Польшчы, у адным з касцёлаў г. Каліша. Немцы прыбралі к рукам палатно, але не паспелі адправіць яго ў Германію. Нядаўна я прачытаў у „Известиях“, што жыхары горада Каліша, які налічвае 1800 гадоў...

— Ды няхай яму і ўсе пяць тысяч! Я быў там у лютым, месяцаў дзесяць назад. У іншы раз я з вялікім задавальненнем выслухаю гісторыю гэтага цудоўнага гарадка, — перапыніў прафесара маёр. — А цяпер мне хацелася б пачуць да канца гісторыю Янтарнага пакоя.

— Няхай будзе па-вашаму, — згадзіўся прафесар. — Такім чынам, жывыя былі яшчэ стваральнікі Янтарнага пакоя, а сам твор адносіўся да разраду зусім маладых. Рускія ж майстры нямала папрацавалі над пакоем за два з палавінай стагоддзі — ён разросся, узбагаціўся жанравымі сцэнкамі, змяніў свой характар; янтарнае пано ўпрыгожыла кампазіцыя з рознакаляровай каўказскай і ўральскай яшмы, у пустых месцах абшыўкі з'явіліся люстэркі, спецыяльна для гэтага заказаныя ў Венецыі. Усё гэта надало пакою прыгажосць. І, нарэшце, для Янтарнага пакоя было адведзена спецыяльнае памяшканне ў новапабудаваным у Царскім Сяле Екацярынінскім палацы. У нас у Расіі пакой „пражыў“ дзвесце трыццаць гадоў, няспынна прыгажэючы і набываючы новы бляск, тады як немцы працавалі над ім усяго восем гадоў, ды сем гадоў выціралі з яго пыл у кабінеце Фрыдрыха І, а затым яго сына Фрыдрыха Вільгельма. І за дзвесце пяцьдзесят гадоў Янтарны пакой ператварыўся ў шэдэўр сусветнага і рускага мастацтва. Гэта наш неацэнны скарб, які мы павінны знайсці і вярнуць народу і сусветнай культуры. Гэта наш абавязак, і мы не спынімся ні перад якімі перашкодамі.

Прафесар змоўк, стомлены доўгай прамовай. Маёр таксама маўчаў, думаючы аб пачутым ад прафесара і ўсіх звязаных з гэтым падзеях. Брусаў паглядзеў на гадзіннік.

— Аднак позна ўжо. Да заўтра.

— Пачакайце, прафесар, я дам вам у праваднікі двух салдат, бо „Вервольф“ не дрэмле. Пакуль, праўда, сядзяць ціха, але нам вядома, што яны тут. Доказаў таму нямала. Узяць хоць бы надпісы на сценах дамоў у розных раёнах горада. Гэта зрабіў не адзін чалавек, а цэлая арганізаваная група.

Вецер працінаў да касцей, сляпіў мокрым снегам. Брусаў падняў каўнер свайго афіцэрскага шыняля без пагон, салдаты глыбока засунулі рукі ў кішэні. Яны ішлі па спаленых вуліцах Старога горада, перасеклі па дыяганалі Парадэпляц, падыходзячы да замка з паўднёвага боку.

— Шаснаццаць месяцаў назад гэта быў самы ажыўлены раён у горадзе, — расказваў салдатам прафесар Брусаў. — А там, дзе побач з вежай узвышаюцца груды цэглы, стаяў цудоўны рыцарскі замак. На жаль, ад яго засталася толькі гэта вежа.

Адзін з салдат узяў прафесара за рукаў шыняля.

—Ціха, — прашаптаў ён. — Там нехта ёсць. Вунь, прайшоў каля вежы.

Цяпер і Брусаў убачыў чалавека, які краўся ў напрамку замкавай вежы. І раптам ён вырашыў у што б там ні стала даведацца, хто гэта ходзіць па руінах у такую непагадзь.

— Захопім яго знянацку, — прашаптаў ён салдатам. — Цікава, чаго гэты падазроны тып шукае ў спаленым замку. Некалі там быў Прускі музей.

Салдаты мацней сціснулі аўтаматы задубелымі ад холаду рукамі і, асцярожна ступаючы, пайшлі туды, дзе

